

# Покліч Волі

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №9 (119)
ЛІПЕНЬ 2012 ГОДА

**"Покліч волі" ў Інтэрнэце**

**Зараз наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/ , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/poklicz_voli.html , што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.**

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

# ДЭМАНІЗАЦЫЯ КАЛАРАДСКАГА ЖУКА

**Пачатак ліпеня багаты на падзеі. Тут табе і прыцягнуты за вушы Дзень незалежнасці, і Купалле, і дзень народзінаў Янкі Купалы, і " Славянскі базар"... Але да пералічанага, безумоўна, дадалося: з 5-га па 7-га ліпеня ААН, АБСЭ і Еўрапарламент прынялі рэзалюцыі з асуджэннем парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі, праезд на чыгунцы падарэжэў на 20-50%, С. Каваленку і З.Дашкевіча залічылі ў злосныя парушальнікі, абралі склад акруговых камісій (3% у апазіцыі!), В.Карніенку не выпусцілі за мяжу, а ад 15-га ізноў даражэе хлеб.**

*Але ж самае сенсацыйнае – раніцай 4 ліпеня шведскі аднаматорны самалёцік перасёк дзяржаўную мяжу РБ, скінуў над Івянцом і над адным з раёнаў Менску плюшавых мядзведзікаў са словамі падтрымкі дэмакратыі і свабоды ў Беларусі ды шчасліва вярнуўся на адзін з аэрадромаў Літвы адкуль ён да таго і вылецеў. Вайскоўцы самалёт прамаргалі і ўся супрацьпаветраная абарона дзвюх дзяржаваў аблажалася па поўнай.*

Сама негвалтоўная акцыя нагадала вядомы перад развалам СССР выпадак, калі немец Руст пасадзіў свой невялікі самалёт на Чырвонай плошчы ў Маскве. Неўзабаве савецкая імперыя развалілась. А Руст стаў тым добрым ангелам, які папярэдзіў гэтую доўгачаканую падзею.

Вайскоўцы цвердзяць: парушэнняў мяжы не было, а выкладзены ў інтэрнэт запіс – мантаж. Пасля гэткае заявы абураныя шведскія праваабаронцы выклалі ў сеціва поўную 1,5-гадзінную версію палёта–не падкапаешся.

КБД шукае мядзведзікаў і трасе журналістаў, якія паведамілі пра падзею першымі. Яны наіўна спадзяюцца, што гэта усё ж такі быў відэамантаж, а прадстаўнікі прэсы датычныя да "правакацыі".

Сваім мужным учынкам шведскія актывісты разбурылі яшчэ адзін міф пра моцную дзяржаву, надзейных абаронцаў і " пра неба, якое на замку".

Але ж самае цікавае, што пра гэтую падзею народ у бальшыні сваёй і не ведае. Хаця, калі б і ведаў, што з таго. З відэаінтэрв'ю "Нашай Нівы", зробленага на вуліцах Менску вынікае, што народ нават не ведае колькі гадоў Лукашэнка ва ўладзе, а на пытанне, хто будзе пасля яго бальшыня адказвае " Коленька".

Не думае народ ні пра выбары, ні пра фармаванне ініцыятыўных групаў і камісій, а вось пра каларадскага жука думае. Змагаецца кожнае лета з амерыканскай навалай, як з самым галоўным сваім ворагам: і збірае, і атручвае яго, і пальцамі ціскае, і ў агонь кідае... Якія толькі метады барацьбы супраць паласатага драпежніка ні выкарыстоўвае, а таму хоць бы што: кожную вясну з зямлі выкараскваецца і ляціць рабіць сваю чорную справу. Мне падаецца, што савецкія спецслужбы ў свой час адмысловы занятак менавіта для тутэйшага народа прыдумалі, каб не было беднаму "элехтарату" часу ні пра беларушчыну, ні пра незалежнасць ды правы чалавека думаць. Пасадзілі на бульбянішча гэткага паласатага дэмана, а той і захапіў беларускую натуру з усімі вантробамі разам.

Ці памятаеце вы, як таго жука на пачатку ягонага з'яўлення нішчылі, калі яшчэ хімічных сродкаў абароны ад яго не было? Я памятую: спачатку збяруць у вядро, аднясуць як мага далей ад агарода, выкінуць на зямлю, паціскуюць, а потым тое, што ад яго засталося, яшчэ ў лужыне ўтопяць ці бензінам абальюць ды спаляць. Ну, што гэта, як не дэманізацыя? Дарэчы, дэманізуе народ не толькі паласатага жучка. А справа ж яна ў тым, што няма дэманаў ні паласатых, ні вусатых, ні на тры літары. І шведы яшчэ раз гэта падцвердзілі. Так, што не раіў бы я тутэйшым людцам забывацца на хуткія выбары. А раіў бы сем разоў падумаць, перш чым адзін раз адрэзаць. Глядзіш, можа яно да лепшага нешта і зменілася б. А з каларадскім жуком мы дасць бог неяк паразумеемся, не такая гэта ўжо жахлівая істота, як бальшыні народа некалі падавалася.

**Рэдактар.**

АХОВА ЗДАРОЎЯ

## Крыху пра сумнае

**На базе Віцебскага абласнога цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя прайшоў рэспубліканскі семінар прысвечаны праблемам ВІЧ/СНІДу.**

Як распавяла загадчыца аддзелам прафілактыкі ВІЧ/СНІД ВОЦГЭІОЗ Валянціна Ананьева, на 1 чэрвеня 2012 г. у Віцебскай вобласці зарэгістравана 716 ВІЧ-інфікаваных. 241 з іх пражывае ў абласным цэнтры, 31 - у Віцебскім раёне.

За 5 месяцаў г.г. у вобласці выяўлена 44 новых выпадкі, з іх 17 - у Віцебску, 5 - у раёне. Наша вобласць, па статыстыцы, займае 5-е месца ў рэспубліцы па распаўсюджанасці ВІЧ-інфекцыі (на першым месцы Гомельская (6646 інфікаваных), на апошнім - Гарадзенская вобласць(556)). Штодня ў нашай краіне рэгіструецца 3-4 новых выпадку. Па распаўсюджанасці ВІЧ-інфекцыі на 1 красавіка 2012 г. у Віцебскім раёне на 100 тыс. насельніцтва даводзілася 76,7 інфікаваных (для параўнання: у Лёзненскім – 206,2, у Талачынскім – 160,1).

Па дадзеных адмыслоўцаў, на сённяшні дзень пераважае палавы шлях перадачы ВІЧ- інфекцыі. На другім месцы – спосаб перадачы праз ужыванне наркотыкаў. Ёсць выпадкі заражэння дзяцей ад інфікаваных маці. Расце лік выпадкаў, калі жанчыны ўпершыню даведваюцца пра свой статут пры пастаноўцы на ўлік па цяжарнасці ў жаночай кансультацыі. Існуе праблема і позняга выяўлення ВІЧ-інфекцыі.

Сярод дадатных тэндэнцый адмыслоўцы адзначаюць адсутнасць у вобласці сярод ізноў ВІЧ-інфікаваных маладых людзей ва ўзросце 15-19 гадоў і памяншэнне колькасці 20-24-гадовых. Дарэчы, ёсць сярод ізноў захварэлых 50-ці, 60-ці і нават 70-гадовыя.

Трагічна, што павялічваецца лік памерлых ад ВІЧ-інфекцыі. За 5 месяцаў 2012 г. у вобласці памерлі 7 чалавек (6 з іх - у стадыі Сніду), у 2011 годзе - 28 (у стадыі Сніду - 21).

**Ян Сведка.**

КУЛЬТУРНАЯ ПАДЗЕЯ

## Саветчына і пудзілы – трэнд сёлетніх кірмашоў на «Славянскім базары»

**Рамеснікі і гандляры ў славутым "Горадзе майстроў" на "Славянскім базары" кожны год стараюцца чымсьці здзівіць жыхароў і гасцей Віцебска. Сёлетняй "фішкай" сталі савецкія лозунгі, плакаты ды іншая атрыбутыка, а таксама пудзілы лясных звяроў і птушак.**




У гэтым годзе кірмашы рамеснікаў разгарнуліся ажно ў трох месцах: у культурна-гістарычным комплексе "Залатое кола Віцебска "Дзвіна", на вуліцы Суворава і ў парку Пераможцаў. У апошнім – упершыню. Свае падворкі выставілі ўсе рэгіёны Віцебшчыны.

Месцамі "Горад майстроў" нагадвае парк савецкай эпохі. Асабліва, як ні дзіўна, пастараліся палачане. У полацкім падворку на Суворава на возе сядзіць мужчынка, над ім плакат "Кто работает в колхозе, в хлебе не нуждается". Тут жа напамін аб калектывізацыі, Першамаі, пяцігодках. Мужыкі п'юць піва ў павільёне пад заклікам "Пролетарии всех стран, соединяйтесь!". А той, кім сапраўды могуць ганарыцца палачане, – Скарына, знаходзіцца пад густым шашлычным дымам.

Але яшчэ большую "фантазію" праявілі гаспадары павільёна каля "Трох штыкоў" на плошчы Перамогі – тут можна выпіць пад плакатамі «Родина-мать зовет!» і «Дойдем до Берлина». Сапраўдны здзек над подзвігам нашых дзядоў.

Між іншым, паабедаць "на хуткую руку" ў шапіках у парку Пераможцаў не грэбуюць нават аблвыканкамаўскія чыноўнікі. У адным з павільёнаў сустрэлася жанчына, на якую ніколі не падумаў бы, што яна будзе есці з пластыкавых талеркі і стаканчыка.

Пудзілы – дзікоў, глушца, аленя, зайца – сустракаюцца ў парку Пераможцаў амаль праз крок. За сімвалічную плату – тысячу рублёў – побач з мёртвымі жывёламі можна сфатаграфавацца. Добра, што на такой спякоце пудзілы не псуюцца…

У пачатку Суворава, каля Уваскрасенскага храма, з'явілася графіці агромністымі літарамі "Віцебск-2012". Напэўна, для тых, хто згубіцца ў часе і прасторы ад бяссонных гулянак. А на каналізацыйных люках – цяпер рознакаляровыя выявы васількоў. Калі раней ніхто не заўважаў, колькі на вуліцы гэтых люкаў, то зараз на іх толькі акцэнтавалі ўвагу. Прыгожага мала: каналізацыя з сімвалам "Славянскага базара".

Адным словам, у наш прыгожы, месцамі нават выкшталцоны Віцебск прышоў, як кажуць у народзе, "славянскі бардак".

**Яна Ільіна.**

## АБ'ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Покліч волі» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць, то таксама патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Рэдакцыя «Покліч волі» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты « Покліч волі ».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам.***

НАШЫ ЗЕМЛЯКІ

# СПРАВА ДЛЯ ДУШЫ

**Не кожны чалавек мае справу па душы. Шмат для каго паняцці праца і хобі далёка не раўназначныя: і шчаслівы той, хто знаходзіць сілы для рэалізацыі закладзеных прыродай здольнасцяў.**

Адна з такіх шчаслівых людзей – нараджэнка г. п. Руба Наталля Пузанава. Майстрыха захапілася гафтам у юнацкасці, калі пасля сканчэння школы паступіла ў Віцебскую прафтэхвучэльню на спецыяльнасць «гафт ручную і на машыне». Вышывала адзежу, ручнікі, абрусы, дывановыя дарожкі, навалачкі ... Аднак па сваёй дыпломнай прафесіі адпрацавала менш за год.

Парадку 30 гадоў Наталля Іванаўна працуе аператарам пральні на ААТ «Даламіт». У вольны ж ад працы час вышывае крыжыкам. Раней узоры брала ў расійскім часопісе «Цудоўныя імгненні», які выпісвала да 2000 года. Цяпер купляе адмысловыя наборы для ручнога гафту.

Падобны занятак патрабуе гранічнай дакладнасці, багатага ўяўлення і карпатлівай працы. Адзін малюначак складаецца з 200-500 клетачак, «якія запаўняюцца» мініяцюрнымі шыўкамі, сярод якіх можна налічваць ажно да 100 розных адценняў. Нядаўна Наталля Іванаўна пачала самую складаную сваю працу пад назвай «Танцы водных пырсак» (карціна адлюстроўвае раскошу канёў, якія скачуць па вадзе), малюнак налічвае 57 каляровых адценняў. У цэлым жа майстрыха «намалявала» ніткамі каля 50 карцінаў. У сваіх творах жанчына аддае перавагу карцінам прыроды і жыцця ў «чыстым выглядзе». Не любіць Наталля Іванаўна экзатычныя пейзажы, атрутныя ярка-насычаныя колеры. Яе працы адрозніае ўмяркованая каляровая гама, выразнасць. Нацюрморты, пейзажы, кветкі Пузанавай падкупляюць спалучэннем прастаты і вытанчанасці.

Нядаўна ў музеі-сядзібе І. Рэпіна «Здраўнёва» адкрылася яе першая персанальная выстава.

На жаль, не заўсёды знаходзіцца час для любімага захаплення. У Наталлі Іванаўны трое дарослых дзяцей, а восць 10-гадовы ўнук і зусім маленькая ўнучка патрабуюць бабулінай увагі. Ёсць дачны ўчастак, дзе даводзіцца працаваць. Але жанчына спадзяецца рэалізоўваць свае задумкі, увасобіць у ніцяных карцінах вытвары, якія б кранялі душу. Па прызнанні майстрыхі, у будучыні яна марыць стварыць яшчэ больш маштабныя творы, чым «Танцы водных пырсак».

**Ян Сведка.**

ЭКАНОМІКА

# У Віцебску прайшоў міжнародны інвестыцыйны форум

**З 24 па 26 чэрвеня прадстаўнікі бізнесу нашай краіны і замежных дзяржаваў ацэньвалі інвестыцыйныя ініцыятывы паўночнага рэгіёну на міжнародным інвестыцыйным форуме ў канцэртнай зале «Віцебск».**

Сёлета да ўдзелу ў кірмашы дзелавых прапаноў выказалі цікавасць гарады-партнёры і замежныя дэлегацыі з Балгарыі, Латвіі, Польшчы, Украіны, Нямеччыны і Расійскай Федэрацыі.

Віцебскі раён – адкрыты для супрацоўніцтва гатовы да рэалізацыі новых ініцыятываў, навуковых ідэяў і распрацовак ды прапаноўвае партнёрства ў сферы прамысловага і сацыяльна-культурнага развіцця.

На кірмашы дзелавых прапаноў свой праект лініі вытворчасці джэмаў, канфітура, павідла, варэнні, тэрмастабільных начынняў для кандытарскай галіны прадставіў Віцебскі садавіннагародніны камбінат. Інвестыцыйная прывабнасць праекта ў яго камплектнасці і бесперапыннасці тэхналагічнага працэсу, магчымасці далейшага пашырэння вытворчасці і ўсталёўкі дадатковых магутнасцяў.

Было што прапанаваць і патэнцыйнаму фундатару ААТ «Рудакова». Па хуткім часе ў аг. Ноўка мусіць быць пабудаваны завод па здабычы і разліцці мінеральны воды прадукцыйнасцю 14 тысячаў літраў вады ў гадзіну. У перспектыве стане рэальным і вытворчасць салодкіх газаваных напояў.

Чакаюць фундатараў аб'екты нерухомасці, змешчаныя ў камунальнай уласнасці раёна. Укладваць грошы, у тым ліку і замежныя інвестыцыі, дзелавыя кругі прапануюць у стварэнне лагістычных і транспартна-лагістычных цэнтраў, якія плануецца адкрыць на тэрыторыі Віцебскага раёна.

Прэзентавала сваю прадукцыю Віцебская біяфабрыка, якая прапанавала шырокі спектр вакцын, антыбіётыкаў, мазяў і іншых ветпрэпаратаў.

Вялікую цікавасць замежныя госці выявілі да прадукцыі ТАА «Вінрэал». У прыватнасці, удалае спалучэнне модных тэндэнцый у вонкавым афармленні і класічных тэхналогіі вытворчасці з натуральнай вынсакаякаснай сыравіны адзначылі прадстаўнікі Расійскай Федэрацыі і Балгарыі.

Вытворчасць гарэлак ажыццяўляецца па класічнай тэхналогіі з выкарыстаннем толькі спірту люкс і суперлюкс з абавязковым фільтраваннем срэбрам ці плацінай. Шырока выкарыстоўваюцца карані, плады, арэхі.

З мэтай выйсця за межы ўнутранага рынка, прыцягненні дзелавых партнёраў для рэалізацыі прадукцыі прадпрыемства прапануе ім выгодныя ўмовы супрацоўніцтва.

На кірмашы рацыяналізатарскіх прапаноў і ідэй шырока быў прадстаўлены турыстычны патэнцыял рэгіёна. Распрацаваныя маршруты дазваляюць турыстам азнаёміцца з гістарычным мінулым Віцебскага раёна, адпачыць на ўлонні прыроды.

Не толькі шырокі спектр лячэбных і аздараўленчых працэдур прапануе вядомая здраўніца санаторый «Летцы», але і гаючую мінеральную ваду з мясцовай свідравіны.

Як паказвае практыка, падобныя бізнэс-форумы бываюць даволі дзейснымі.

**Янка Жыхар.**

ЭКАЛОГІЯ

# КОЛЬКАСЦЬ ТАКСІЧНЫХ ВЫКІДАЎ У АТМАСФЕРУ ПАМЕНШЫЛАСЯ

**У чэрвені ў рамках экалагічнай аперацыі «Чыстае паветра» адмыслоўцы райінспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя сумесна з супрацоўнікамі ДАІ ЎУС аблвыканкама давалі адзнаку таксічнасці і дымнасці транспартных сродкаў.**

Праверкі, праведзеныя на прадпрыемствах раёна, сведчаць пра тое, што праца па ахове паветранага басейна ад шкодных выкідаў аўтатранспарту ў параўнанні з мінулым годам палепшылася. Як лічаць экологі, дадатная дынаміка па зніжэнні выкідаў у атмасферу ад перасоўных крыніц звязаныя з працай станцый тэхабслугоўвання і дыягностыкі, якія выдаюць талоны таксічнасці, а таксама з рэгулярным кантролем з боку прыродаахоўнай інспекцыі.

Пад час правядзення аперацыі адмысловая ўвага надавалася наяўнасці на прадпрыемствах кантрольна-рэгулявальных пунктаў і пастоў дыягностыкі аўтатранспарту, іх абсталяванасці сродкамі кантролю таксічнасці і дымнасці адпрацаваных газаў, эфектыўнасці выкарыстання наяўных прыбораў, вядзенню часопісаў уліку праверак аўтатранспарту.

Увесь месяц акцыя «Чыстае паветра» несла вахту на галоўных аўтамагістралях раёна. У раёне Рубаўскага і Варонаўскага кольцаў экалагічная міліцыя ажыццяўляла кантроль за выкананнем нормаў таксічнасці і дымносці адпрацаваных газаў аўтамабіляў ва ўмовах дарожнага руху. Праверана больш 100 адзінкаў аўтатранспарту. Праўда, не ўсе яны прайшлі праверку на «выдатна»: з перавышэннем нормаў выяўленыя 14 машынаў. Колькасць апошніх у параўнанні з мінулым годам паменшылася, у кожнага трэцяга кіроўцы маецца талон таксічнасці, у большасці выпадкаў эксплуатуецца новы транспарт ці транспарт тэрмінам выпуску да 10 гадоў.

Па выніках праверак райінспекцыяй прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя за парушэнне патрабаванняў у вобласці аховы атмасфернага паветра пры выкідах забруджвальных рэчываў мабільнымі крыніцамі выкідаў па арт.15.50 КОАП Рэспублікі Беларусь накладзена штрафаў на суму 710 тысячаў рублёў.

**Якаў Дрозд.**

ПАДЗЕЯ

# На месцы былога канцлагера–капліца

Напярэдадні дня вызвалення Віцебску ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў над горадам гучалі журботныя званы. На месцы былога канцэнтрацыйнага лагера «5-ы полк» была ўсталявана капліца.

Разам з віцяблянамі ўдзел у мітынгу-рэквіеме прынялі дэлегацыі гарадоў-пабрацімаў, кіраўніцтва абласнога цэнтра, моладзь, а таксама тыя, хто прайшоў дарогамі вайны і застаўся жывы.

Другі па велічыні лагер смерці ў Беларусі пасля Трасцянца фашысты стварылі ўлетку 1941-га на месцы 5-га чыгуначнага палка. За тры гады праз яго прайшлі каля 150 тысяч мірных жыхароў і савецкіх ваеннапалонных, з якіх 80 тысячаў загінулі.

Сярод тых, хто прайшоў праз лагернае пекла, Ірына Паўлаўна Краўчонак, у дзявоцтве Васільева.

Калі ў Віцебску пачалі выбухаць снарады, а гукі кананад парушылі цішыню, ёй было сем гадоў. У сакавіку 1944 г. ейная сям'я, у якой было пяцёра непаўнагадовых дзяцей, як і ўсіх жыхароў мястэчка Біцлёва, немцы адправілі ў канцлагер «5-ы полк». Там было сем баракаў. Кожны асобна абгароджаны калючым дротам, а паміж імі – вартавыя з сабакамі. У бараку – нары ў тры ярусы. Кармілі горкай, вадкай баландай, многія на такой пайцы доўга не працягнулі. Але і там дзеці знаходзілі нагоды для маленькай радасці. Адным з іх жанчына лічыць той дзень, калі маму вярнулі да нас у барак. Праўда, дзеля гэтага ёй прыйшлося зняць з пальца залаты пярсцёнак.

Тых, хто не дачакаўся Дня Перамогі, будуць успамінаць у малітве ў гуку.

**Ян Сведка.**

ДЫСКУСІЙНЫ КЛУБ

# Праўда тут ні пры чым

У адным з ліпеньскіх нумароў раённай газеты " Жыццё Прыдзвіння" з'явілася невялічкае апытанне Т. Салаўёвай трох вядомых у горадзе асобаў. Маўляў, усе людзі як людзі, а тутэйшым гарадскім жыхарам не пашанцавала: " …масквічы, смаляне, мінчане – гучанне гэтых словаў не мае розначытанняў. А вось жыхары Віцебску завуць сябе па-рознаму(віцябляне, віцябчане)". А як жа дакладна?

Што да мяне, то хацелася б найперш разабрацца ў прыродзе пастаноўкі падобнага пытання, і даведацца, хто ягоны ініцыятар? Справа ў тым, што пытанне гэтае – ужо з барадой. А на інтэрнэт форумах яго не абмяркоўваў хіба што толькі гультай. Прычым пераважнай большасці чамусьці ўпарта хочацца быць "віця-бля-намі" і "віця-бля-нкамі".

Складваецца такое ўражанне, што гістарычная свядомасць тутэйшага насельніцтва і ягоная адданасць традыцыям звышідэальная. Ну, словам, як усе некалі прачыталі ў летапісах "віцябляне" так на тым і стаяць. Хаця, калі б яны так ужо захоўвалі летапісную дакладнасць, то мусілі б называцца " видьблянами", а горад "Дбескам, Видбескам, Видебскам, Витепескам, Витьбескам").

Гэткі ж традыцыяналізм дэманструюць і апытаныя журналісткай асобы: гісторык, краязнаўца, журналіст Аркадзь Падліпскі( "Ёсць галоўнае, ад чаго трэба адштурхвацца – традыцыя. Здаўна, ва ўсіх летапісах і гістарычных дакументах мы былі «віцяблянамі"), паэт і філолаг Давыд Сімановіч( "Думаю, што трэба казаць «віцябляне»), намеснік дырэктара па навуцы Віцебскага абласнога краязнаўчага музея Валерый Шышанаў( " у гістарычных, досыць старажытных дакументах, ужываецца форма "віцябляне").

Ну, ужываецца, а што для тутэйшага светаадчування гэта так ужо істотна? Хіба ні называўся ў летапісах Мінск " Менескам,Меньскам, Менскам", але ж па чыёйсьці ўпартай прыхамаці называюць яго дасюль на польскі манер Мінскам і нікому гістарычная праўда ў гэтым выпадку чамусьці непатрэбная. Ды і з "мінчанамі" тады выходзіць не ўсё так адназначна, як сцвярджае журналістка, бо называюцца яны яшчэ "мінчукамі", хаця дакладней было б "менчукамі".

І з гарадзенцамі не ўсё адназначна, і з случакамі, і з пінчукамі, і з гомельцамі, і з магілёўцамі, і з берасцейцамі, як і з беларускімі тапанімічнымі назовамі і з прозвішчамі ды і з беларускай моваю, якую па жывому пачыкрыжалі так, што большыня ўжо і ведаць не хоча, як яно павінна быць у адпаведнасці з моўнымі законамі і правіламі.

У сённяшняй не беларускай Беларусі так панаблыталі самаробныя гісторыкі і краязнаўцы ад палітыкі паўночна-заходняга краю, што ўтарапенне бярэ кожнага абазнанага чалавека. Ну, што ты зробіш, хочацца ім ўсё зрабіць у адпаведнасці з тутэйшым часам, які спыніўся: каб нікяай там табе варыятыўнасці, каб ніякага свабоднага словавыяўлення, каб "віцябляне"– і ніякіх табе розначытанняў. Дарэчы, яшчэ адно моўнае вынаходніцтва са старонак раённай газеты: чальцоў " Белай Русі" адна журналістка назвала "белорус-овцамі".

Яно добра, што дакапаліся праўды–няхай будзе па-вашаму "віцебляне" дык "віцебляне". А далей што? Адпаведна логікі, швейнае прадпрыемства " Віцябчанка" пераназываецца ў " Віцяблянку", а газета " Віцьбічы" ў " Віцябчане", слова ж "віцябчук" забараняецца адпаведным дыкрэтам граданачальніка. Віцябляне задаволеныя, некаторыя нават трапляюць у стан эйфарыі.

Хаця, калі паглядзець з боку адаптаванасці вышэй азначаных найменняў у кола непасрэдных жыццёвых рэалій( што па сутнасці і з'яўляецца праўдзіваю перавагаю таго ці іншага варыянту), то відавочна, што "віцябляне" прайгралі і "віцябчанцы" і "віцьбічам". Сваёю творчасцю сцвердзіў гэтае ў мінулым стагоддзі і пісьменнік Серафім Шчарбакоў, якога мы ведаем пад псеўданімам Юрка Віцьбіч.

Логіка "традыцыяналістаў" ад "северо-западного края" на першы погляд заблытаная, але даволі зразумелая: усё, ад чаго хоць нейкім чынам патыхае беларушчынай, ёсць для іх прыхаванаю небяспекаю. І праўда тут ні пры чым. Абы меней беларускага духу. І тады Менск для іх будзе Мінскам, а віцьбіч віцяблянінам.

Яны добра памятаюць часы Пазняка і той навязлівы стан нявызначанасці, калі іхнія каштоўнасці вось-вось мусілі сысці ў нябыт. Сёння ж ім, мусіць, падаецца, што ўсё ўжо скончылася і самае галоўнае на сённяшні час–гэта абраць адзіна правільнае найменне для жыхароў Віцебска, Віцебскага раёна і вобласці.

**С.Горкі.**

БЕЛАРУСЬ І СВЕТ

# ШТО СТАІЦЬ ЗА НОВАЙ «БАМБАРДЗІРОЎКАЙ» БЕЛАРУСІ

АФІЦЫЙНЫ МЕНСК НА ПРАЦЯГУ ТРОХ ДЗЁН ПРЫМУДРЫЎСЯ АТРЫМАЦЬ АД МІЖНАРОДНЫХ АРБІТРАЎ ТРЫ «ГАРЧЫЧНІКА». ЕЎРАПАРЛАМЕНТ, САВЕТ ААН ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА І ПАРЛАМЕНЦКАЯ АСАМБЛЕЯ АБСЕ ПРЫНЯЛІ ПАДОБНЫЯ ПА СУТНАСЦІ ДЭКЛАРАЦЫІ З ПАТРАБАВАННЕМ ВЫЗВАЛІЦЬ І РЭАБІЛІТАВАЦЬ ПАЛІТЫЧНЫХ ЗНЯВОЛЕНЫХ.

### Еўрапарламент: новая песня пра тое ж

Праўда, што тычыцца Еўрапарламента, падставай да рэзалюцыі, прынятай 5 ліпеня, сапраўды паслужыла нядаўняя падзея - новае абвінавачванне карэспандэнту польскай «Газеты Выборчай» у Беларусі Андрэю Пачобуту ў паклёпе на прэзідэнта. Рэзалюцыя сфармуляваная ў жорсткай форме. У прыватнасці, краінам ЕС рэкамендуецца разгледзець чарговае пашырэнне санкцый супраць беларускіх чыноўнікаў.

Таксама ставіцца пад пытанне далейшае ўдзел Беларусі ў праграме «Усходняе партнёрства». Але прынцыпова новых палажэнняў дадзены дакумент не ўтрымлівае. Ён з'яўляецца толькі лагічным дадаткам да папярэдніх рэзалюцыям Еўрапарламента, проста ў гэты раз акцэнт зроблены на патрабаваннях спыніць пераслед журналістаў і забяспечыць свабоду СМІ. А вось рашэнні, прынятыя ў той жа дзень на пасяджэнні Савета ААН па правах чалавека (СПЧ), стандартнай рэакцыяй назваць цяжка.

### СПЧ ААН: закуліссе супрацьстаяння

Па-першае, дадзеная структура зусім не з'яўляецца безадмоўным рупарам Захаду. З 47 членаў СПЧ на ЗША і краіны Еўрасаюза прыпадае толькі 10 мандатаў. Таму для забеспячэння дзейнасці Савета Захаду нярэдка прыходзіцца ісці на саступкі, часам - даволі істотныя. Так, у 2007 годзе, згодна службы даследаванняў Кангрэсу ЗША, Еўрасаюз пагадзіўся ліквідаваць мандаты спецыяльных дакладчыкаў па Беларусі і па Кубе ў абмен на падтрымку Кітая ў пытанні рэфармавання арганізацыі.

Аднавіць гэты мандат не ўдалося нават пасля падзей снежня 2010 года ў Мінску. Цяперашняе вяртанне функцыі спецдакладчыка па Беларусі было «выбіта» толькі дзякуючы нечаканай рашучасці Захаду правесці гэтае рашэнне менавіта цяпер. Паводле прэс-рэлізу Дзярждэпартамента ЗША, рэзалюцыя па Беларусі стала вынікам супрацоўніцтва з Еўрасаюзам (праект ад імя Е3 падала Рэспубліка Кіпр) і «інтэнсіўнага лабіравання да і падчас пасяджэння».

У прыватнасці, актыўны супраціў аказвала Расія, чый прадстаўнік назваў рэзалюцыю «суб'ектыўнай і контрпрадуктыўнай», а «спробы праціснуць абмеркаванне Беларусі ў якасці тэрміновага пытання - неабгрунтаванымі». На абарону Мінска ўстаў нават Кыргызстан, які сцвярджаў, што «Беларусь дэманструе жаданне супрацоўнічаць і прытрымліваецца усіх сваіх абавязацельстваў». Праўда, калі дайшло да галасавання, Бішкек аддаў перавагу захаванню нейтралітэта.

У выніку за рэзалюцыю прагаласавалі 22 члена Савета. Яшчэ 20 краін устрымаліся, Расія, Кітай, Куба, Эквадор і Індыя галасавалі супраць. Пра тое, колькі каштавала Захаду праштурхоўванне дадзенага праекта, можна толькі здагадвацца. Бо ва ўмовах актыўнага процідзеяння з боку Расеі і Кітая 12 краін-саюзнікаў і 20 «нейтралітэту» гэта - 32 двухбаковых здзелкі, многія з якіх, несумненна, запатрабавалі ад Вашынгтона і Бруселя пэўных палітычных кампрамісаў па іншых пытаннях.

Затое па выніках галасавання, акрамя прызначэння спецдакладчыка, была прынятая кароткая рэзалюцыя, якая патрабуе ад Менску «неадкладна і без усялякіх умоваў вызваліць і рэабілітаваць усіх палітычных зняволеных». Пра важнасць гэтай фармулёўкі - крыху ніжэй.

Пакуль жа варта адзначыць, што калі рэзалюцыя СПЧ характэрная намаганнямі, выдаткаванымі на яе прыняцце, то дакумент, ўзгоднены ў мінулую суботу Парламенцкай асамблеяй АБСЕ, унікальны па змесце.

### АБСЕ: ягня загыркаў

Тое, што АБСЕ зноў асудзіць парушэнні правоў чалавека ў Беларусі, не выклікала сумнення: леташняя ліпеньская Асамблея ў Бялградзе таксама прыняла рэзалюцыю па гэтым пытанні. Тым не менш, розніца паміж двума дакументамі - прынцыповая.

Рэзалюцыя ПА АБСЕ, прынятая ў ліпені 2011 года, заклікала Мінск ўсяго толькі «вызваліць усіх людзей, затрыманых у сувязі з дэманстрацыяй (19 снежня 2010), якія павінны быць прызнаныя палітычнымі зняволенымі».

Затое фармулёўкі гэтага дакумента з'яўляюцца беспрэцэдэнтнымі ў адносінах Арганізацыі з Беларуссю па сваёй жорсткасці. У прыватнасці, ПА АБСЕ ў загадным тоне патрабуе ад Мінска «неадкладна і без усялякіх умоваў вызваліць і рэабілітаваць усіх палітычных зняволеных у Беларусі» і «гарантаваць поўнае аднаўленне іх палітычных правоў».

### Новыя правілы прымірэння

Улічваючы, што Менск мае схільнасць забываць аб дадзеных ім абяцаннях адразу ж пасля атрымання «пернікаў», Брусель разумее, што прынцыпова новыя крокі, патрабаваныя ад Лукашэнкі ў абмен на прымірэнне, павінны аказаць уздзеянне непасрэдна ў перыяд пацяплення, якое можа апынуцца непрацяглым. І Захад, відавочна, такую прынцыповую цану ўжо прызначыў: не проста вызваленне, а - рэабілітацыя палітвязняў.

Гэты крок прымусіць беларускія ўлады не толькі прызнаць пасляявыборныя рэпрэсіі злачынствам, але і - што горш - паказаць насельніцтву сваю слабасць перад ціскам звонку. Акрамя банальнай помсты за ўдар па еўрапейскаму прэстыжу ў 2010 годзе, Захад, верагодна, спадзяецца, што гэтая хваравітая для Мінска працэдура прымусіць яго ў будучыні падумаць двойчы, перш чым зноў звярнуцца да палітычных «пасадак»...

Але цяперашняя падтрымка Мінска Крамлём толькі здаецца непарушнай, і гэта разумеюць і ў Вашынгтоне, і ў Брусэлі. Бо заходнія палітыкі выдатна памятаюць, на якіх умовах яны прымаюць Расею ў СГА. А ўступаючы ў Сусветную гандлёвую арганізацыю, Расія фактычна ставіць сваю харчовую самадастатковасць ў залежнасць ад своечасовага ўступлення ў СГА Беларусі.

### Закладнікі

Згодна з умовамі ўступлення ў Сусветную гандлёвую арганізацыю, праз 18 месяцаў Масква пачне істотна скарачаць імпартныя пошліны на сельскагаспадарчую прадукцыю, адкрыўшы такім чынам вароты для еўрапейскіх экспарцёраў, якія атрымліваюць у 40 разоў больш датацый на гектар ворыва, чым іх расійскія калегі.

Калі Масква адначасова не павялічыць узровень унутранай дзяржпадтрымкі АПК, дадзены эксперымент скончыцца масавым банкруцтвам расійскіх аграрыяў. Але дазволены ўзровень расійскіх сельгасдатацый вельмі малы і павінен яшчэ зменшыцца ўдвая - да 4,5 млрд. даляраў у 2016 годзе. Таму для захавання свайго АПК праз паўтара года Расіі спатрэбіцца і беларуская квота на датацыі, якая можа скласці да 4 млрд. даляраў.

Краінам Захаду гэта, безумоўна, вядома, паколькі Крэмль пагадзіўся пайсці на ўмовы СГА па сельскай гаспадарцы толькі пасля таго, як членам Мытнага саюза было дазволена пераразмяркоўваць паміж сабой квоты па сельгасдатацыях.

Таму Крэмль будзе аказваць безумоўную падтрымку Аляксандру Лукашэнку ў яго перамовах з Захадам аб членстве ў СГА толькі ў першы час. Але калі працэс зойдзе ў тупік, Маскве не застанецца іншага варыянту, акрамя як прымусіць Менск пайсці на саступкі (або жа самай адмовіцца ад сяброўства ў СГА, што значна менш верагодна).

### Практычнае значэнне міжнародных рэзалюцый

Фармальна перамовы аб уступленні ў СГА з'яўляюцца выключна гандлёвымі, і палітычныя патрабаванні да краіны-члену супярэчаць прынцыпам арганізацыі. Такім чынам, калі б Брусэль і Вашынгтон абумовілі беларускае сяброўства двухбаковым патрабаваннем рэабілітацыі палітвязняў, у Мінска і Масквы былі б шырокія магчымасці ў адказ ціску на Захад па гэтым пытанні на разнастайных міжнародных платформах.

Але цяпер, калі за рэабілітацыю прагаласавалі і ў ААН, і ў АБСЕ, дадзеныя патрабаванні ўжо афіцыйна гучаць ад імя міжнароднай супольнасці, у тым ліку і ад Кітая - члена СПЧ, які прыняў удзел у галасаванні па гэтым пытанні, і ад РФ - члена як СПЧ ААН, так і ПА АБСЕ.

Краіны Захаду, у сваю чаргу, цяпер маюць поўнае права адмаўляцца падпісваць з Мінскам любыя дамовы - у тым ліку гандлёвыя або ў рамках іншых міжнародных арганізацый (да прыкладу - аб крэдыце МВФ) - да выканання ім сваіх абавязацельстваў перад ААН.

**Стась Івашкевіч, naviny.by/**

ПАЛІТВЯЗНІ

# ПАЛІТВЯЗЕНЬ НАПІСАЎ «ЯЎКУ З ПАВІННАЙ»

НЯВЕСТА ПАЛІТВЯЗНЯ ЗМІТРА ДАШКЕВІЧА НАСТА ПАЛАЖАНКА 10 ЛІПЕНЯ НАВЕДАЛА КАЛОНІЮ Ў ГЛЫБОКІМ, ДЗЕ ХЛОПЕЦ АДБЫВАЕ ЗНЯВОЛЕННЕ. ТАМ НАСТА ДАЗНАЛАСЯ, ШТО ЧАТЫРЫ ДНІ ТАМУ, 6 ЛІПЕНЯ, АДМІНІСТРАЦЫЯ КАЛОНІІ ПАДАЛА ДАКУМЕНТЫ Ў СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ НА ЗАВЯДЗЕННЕ НОВАЙ КРЫМІНАЛЬНАЙ СПРАВЫ СУПРАЦЬ ДАШКЕВІЧА ЗА «НЕВЫКАНАНЬНЕ РЭЖЫМУ КАЛОНІІ».

Сам Зміцер Дашкевіч адрэагаваў на гэта лістом на апераджэнне на імя начальніка калоніі, які ён саркастычна назваў «яўкай з павіннай».

«Я, Дашкевіч Д.В., прызнаю сябе вінаватым у тым, што свядома адмаўляюся выконваць некаторыя патрабаванні адміністрацыі калоніі, якія лічу незаконнымі.

Каб спрасціць працу праваахоўнікам, агентам і следчаму камітэту, я адмаўляюся выконваць любыя патрабаванні адміністрацыі любой калоніі, у якой я буду знаходзіцца.

Раю беларускім спецслужбам асудзіць мяне на максімальны тэрмін, прадугледжаны арт. 411 КК РБ, пры гэтым рыхтуючы на мяне новыя крымінальныя справы ў кожнай новай калоніі. Зміцер Дашкевіч, 10.07.2012».

Паводле гэтага артыкулу Дашкевічу можа прадугледжваць да 1 году зняволення. Лідар «маладафронтаўцаў» Зміцер Дашкевіч быў арыштаваны 18 снежня 2010, за дзень да прэзідэнцкіх выбараў, нібыта за бойку. Разам з ім на судзе паўстаў паплечнік Эдуард Лобаў. У выніку Дашкевіч атрымаў два гады зняволення, Лобаў — 4.

За кратамі ад Дашкевіча неаднаразова патрабавалася, каб ён напісаў прашэнне аб памілаванні, але вязень адмаўляўся. На волю Зміцер павінен выйсці 19 снежня, калі не будзе заведзеная новая справа.

**Зміцер Панкавец.**

Чытаць цалкам http://nn.by/?c=ar&i=76564

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# “ПАЛІТЫКА ЕС ПАВІННА БЫЦЬ АСАБЛІВАЙ”

ЛІДАР РУХУ «ЗА СВАБОДУ» АЛЯКСАНД МІЛІНКЕВІЧ ПАДЧАС СВАЙГО ВІЗІТУ Ў НЯМЕЧЧЫНУ МЕЎ ГУТАРКІ З ШЭРАГАМ АФІЦЫЙНЫХ АСОБАЎ. ЁН ПАДЗЯЛІЎСЯ З НЯМЕЦКІМІ ПАЛІТЫКАМІ СВАІМ БАЧАННЕМ РАЗВІЦЦЯ СТАСУНКАЎ ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І КРАІНАМІ ЕС.

У Мілінкевіча адбыліся сустрэчы з намеснікам начальніка групы па замежнай палітыцы CDU/CSU у бундэстагу, камісарам ураду па нямецка-расійскіх стасунках доктарам Андрэасам Шокенхофам, з кіраўніком ведамства федэральнага канцлера ФРГ Рональдам Пафалай, а таксама з міністрам замежных спраў Гіда Вестэрвэле.

Аляксандр Мілінкевіч падчас сустрэчаў з уплывовымі нямецкімі палітыкамі выказаў сваё бачанне развіцця стасункаў паміж Беларуссю і краінамі Аб'яднанай Еўропы, паступовай еўрапеізацыі нашай краіны праз падтрыманую Еўрасаюзам мадэрнізацыю.

Паводле лідара Руху «За Свабоду», зараз існуе відавочны канфлікт каштоўнасцяў і дэфіцыт крэдыту даверу паміж Беларуссю і ЕС. Першае давядзецца выпраўляць павольна і паступова, другое можна будзе пачаць адбудоўваць пасля вызвалення палітвязняў.

«Палітыка ЕС у дачыненні да Беларусі не павінна быць такой, якой была палітыка да новых сяброў ЕС, кшталту Польшчы, Чэхіі, краін Балтыі. На першым месцы ў стасунках з Беларуссю мусіць быць прапанавана найперш партнёрства для мадэрнізацыі, падтрымка эканамічных рэформаў, а не «ўрокі дэмакратыі». Цягам пераўтварэнняў у эканоміцы і развіцця грамадзянскай супольнасці ў Беларусі сфармуюцца ўмовы для развіцця дэмакратыі», – мяркуе Аляксандр Мілінкевіч.

Беларускі палітык выказваў сваім суразмоўцам такую думку, што ў пабудове адносінаў (пасля таго, як будуць вызваленыя палітвязні) галоўную ролю павінна адыгрываць «дарожная мапа» па набліжэнні Беларусі да Еўразвяза, дзе будуць расписаныя канкрэтныя, абумоўленыя крокі з абодвух бакоў, накіраваныя на мадэрнізацыю Беларусі.

Лідар Руху «За Свабоду» лічыць, што Еўразвяз павінен паставіць галоўны акцэнт на паступовую транфармацыю краіны праз працу з грамадствам, праз падтрымку бізнесу і ўцягванне розных групаў грамадства ў інтэграцыйныя праекты.

Падчас сустрэчаў Аляксандра Мілінкевіча з нямецкімі ўрадоўцамі таксама шмат гаварылі пра небяспеку для Беларусі расійскай алігархічнай прыватызацыі і ўвядзення расійскага рубля.

**Прэс-служба Руху.**

НАША ЎЛАДА

# ЯК ДОЎГА ЛУКАШЭНКА ЗБІРАЕЦЦА КІРАВАЦЬ БЕЛАРУССЮ?

ТОЕ, ШТО ЛУКАШЭНКА ДОБРААХВОТНА ЎЛАДА НЕ АДДАСЦЬ, - ФАКТ, ЯК ГАВОРЫЦЦА, МЕДЫЦЫНСКІ. А ВОСЬ АБ ВАРЫЯНЦЕ З ПЕРАДАЧАЙ КРАІНЫ ПЕРАЕМНІКУ ПАЛІТОЛАГІ І АНАЛІТЫКІ ПЕРЫЯДЫЧНА КАЖУЦЬ. НЕЗМЯНЯЛЬНЫ ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ ЧАС АД ЧАСУ САМ ПАДКІДВАЕ ПАДСТАВЫ. ДЫ І ЯК НЕ ПАДКІДВАЦЬ, МАЮЧЫ ТРОХ СЫНОЎ, І НАВАТ САМАГА МАЛОДШАГА БАЦЬКА ЗРАБІЎ ФІГУРАЙ ВЯЛІКАЙ БЕЛАРУСКАЙ ПАЛІТЫКІ.

На варыянт з перадачай ўлады свайму малодшаму сыну - сямігадоваму Мікалаю - Аляксандр Лукашэнка намякнуў яшчэ раз 26 чэрвеня ў Каракасе на сустрэчы з прэзідэнтам Венесуэлы Уга Чавесам. «Некаторыя пачалі сумнявацца ў сур'ёзных перспектывах супрацоўніцтва Беларусі і Венесуэлы. Тут знаходзіцца мой сын Мікалай, і гэта кажа аб тым, што мы сур'езна і надоўга заклалі асновы супрацоўніцтва, і ёсць каму пераняць эстафету гадоў праз 20-25 «, - заявіў афіцыйны беларускі лідэр.

Прэзідэнцкая арыфметыка ў дадзеным выпадку злёгку кульгае, бо нават праз 25 гадоў Мікалай Лукашэнка не дасягне ўзросту, які дае права балатавацца ў прэзідэнты Беларусі. Зрэшты, досвед паказвае, што ў нашай краіне ў выпадку неабходнасці лёгка змяняецца нават Канстытуцыя.

Як лічыць эксперт аналітычнага цэнтра «Стратэгія» Валерый Карбалевіч, іншы раз агаворкі, няўзнак сказаныя словы значаць больш, чым афіцыйную заяву, так як паказваюць падсвядомыя намеры. Выказванне Лукашэнкі аб перадачы эстафеты свайму сыну Мікалаю палітолаг інтэрпрэтаваў «як намер застававацца ва ўладзе да канца жыцця, як пасыл аб тым, што Беларусь фатальна асуджаная на доўгае праўленне Аляксандра Лукашэнкі». «Не думаю, што Лукашэнка плануе зараз рабіць пераемнікам малодшага сына: гэта занадта далёкая перспектыва, - адзначыў Валерый Карбалевіч у каментары для Naviny.by. - Сэнс яго слоў у тым, што Лукашэнка не плануе перадачу ўлады ні старэйшаму, ні малодшаму - ён сам не збіраецца нікуды сыходзіць ».

Карбалевіч звярнуў увагу на тое, што Лукашэнка адносна пераемнасці ўлады рабіў досыць супярэчлівыя заявы.

Так, у 2008 годзе падчас наведвання Хойніцкага раёна афіцыйны лідэр заявіў: «Усюды мусіруецца пытанне, што нібыта гэтая арганізацыя (маецца на ўвазе грамадскае аб'яднанне« Белая Русь ». - Рэд.) Стваралася пад будучага прэзідэнта, і што гэтым прэзідэнтам будзе мой старэйшы сын. Я ўжо сказаў: малодшы сын будзе прэзідэнтам Беларусі ».

Менш чым праз два гады Лукашэнка на прэс-канферэнцыі для расейскіх СМІ казаў зусім іншае: «Я катэгарычна не хачу абразіць свой народ і не даць яму права выбару. Таму забудзьцеся гэтыя размовы пра тое, што я рыхтую сваіх сыноў або старэйшага сына як наследніка. У спадчыну ўладу ніхто перадаваць не будзе. Я вам кажу так, я сёння гэта разумею, сумленна і шчыра. Я не хачу, каб мае дзеці былі ў Беларусі прэзідэнтамі «.

Паводле дадзеных сакавіцкага нацыянальнага апытання грамадскай думкі НІСЭПД, давяраюць прэзідэнту Беларусі 42,2% (у верасні 2011-га - 24,5%, у снежні - 31,2%), не давяраюць кіраўніку дзяржавы 48,5% (62% - у верасні, 54,5% - у снежні).

Як лічыць кіраўнік савета міжнароднага кансорцыума «ЕўраБеларусь» Уладзімір Мацкевіч, заяву Лукашэнкі аб тым, што яму ёсць каму перадаць эстафету ўлады, «знаходзяцца па-за межамі здаровага сэнсу, не кажучы аб паліткарэктнасці». «Чалавек раптам кажа пра спадчыннай пераемнасці ўлады, не маючы на тое ні юрыдычных, ні маральных падстаў. Зразумела, што Беларусь вельмі няспелая у сэнсе развіцця дэмакратыі краіна, аднак нават для нас такія заявы - гэта занадта, - адзначыў Уладзімір Мацкевіч у каментары для Naviny.by. - Мы ўсё ж такі еўрапейская, а не ўсходняя нацыя, не Паўночная Карэя ».

Мацкевіч бачыць праблему ў тым, што ўлады давялі сытуацыю да такой стадыі, калі «ў краіне не засталося суб'екта, напросту мужчын, здольных спыніць тое, што адбываецца».

**Алена Спасюк.**

ПАЛАТАЧНАЯ КАМПАНІЯ

# АПАЗЫЦЫЯ Ў ВЫБАРЧЫХ КАМІСІЯХ: МЕНЕЙ, ЧЫМ НА МІНУЛЫХ ВЫБАРАХ

9 ЛІПЕНЯ ЗАВЯРШАЕЦЦА ФАРМАВАНЬНЕ АКРУГОВЫХ ВЫБАРЧЫХ КАМІСІЯЎ. ПРАДСТАЎНІКІ АПАЗЫЦЫІ Ў СКЛАД ВЫБАРКАМАЎ ТРАПІЛІ — ПА НЕКАЛЬКІ ЧАЛАВЕК НА ВОБЛАСЬЦЬ. НАЙБОЛЬШ АПАЗЫЦЫЯНЭРАЎ БУДЗЕ Ў КАМІСІЯХ У МЕНСКУ — 13 ЧАЛАВЕК, АЛЕ ГЭТА МЕНЕЙ, ЧЫМ БЫЛО Ў 2008 ГОДЗЕ.

Фаварыты пры прызначэньні сябраў акруговых выбарчых камісіяў — па-ранейшаму БРСМ, «Белая Русь», афіцыйныя прафсаюзы і вэтэраны. Ад апазыцыі трапляюць адзінкі.

У Менску было зацьверджана 20 камісіяў па 13 чалавек. Ад апазыцыі ў іх уключылі 13 вылучэнцаў: 7 ад партыі «Справядлівы сьвет», 4 — ад БНФ, ад Грамады і АГП — па адным. Валянціна Сьвяцкая: «Усё адбываецца прыблізна гэтаксама, як і ў папярэднія выбарчыя кампаніі, калі апазыцыя была ў абсалютнай меншасьці. Цяпер крыху больш уключылі ў параўнаньні зь мінулай прэзыдэнцкай выбарчай кампаніяй, бо тады там увогуле амаль нікога з апазыцыі не было, акрамя Менскай гарадзкой камісіі, куды ўключылі трох апазыцыянэраў».

Як вынікае з папярэдніх падлікаў, у параўнаньні з парлямэнцкімі выбарамі 2008 году сытуацыя пагоршылася. Тады ў менскія камісіі ўключылі 20 апазыцыянэраў, цяпер — 13. У Гомельскай вобласьці ў акруговыя камісіі ў 2008 годзе ўключылі 13 апазыцыянэраў, цяпер — 3. Аналягічная сытуацыя і ў іншых абласьцях.

Гаворыць Валянцін Стэфановіч з кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары»: «На жаль, нічога новага мы не назіраем у параўнаньні з папярэднімі выбарамі. Знoўку кідаецца ў вочы, што паседжаньні адбываюцца вельмі хутка. У Гомельскай вобласьці 13 хвілінаў ішло. Кандыдатуры не абмяркоўваліся, нягледзячы на тое, што конкурс быў. Сьпісы, узгодненыя з выканкамамі, зацьвярджаюцца, і зноў бачым, што асноўнымі арганізатарамі выбараў выступаюць чатыры няўрадавыя арганізацыі: Фэдэрацыя прафсаюзаў, БРСМ, „Белая Русь" і вэтэранская арганізацыя».

Каардынатар кампаніі «За справядлівыя выбары» Сяргей Калякін кажа, што толькі ў Берасьці пры зацьвярджэньні сябраў камісій была дыскусія, пасьля якой колькасьць апазыцыянэраў у камісіях павялічылася. Агулам жа ўлады па-ранейшаму дыскрымінавалі апазыцыю: «У цэлым магу сказаць, што ўлады правалілі гэты першы экзамэн на тое, што яны зьбіраюцца праводзіць раўнапраўныя выбары. Ужо сёньня можна сказаць, што, напрыклад, на Гомельшчыне толькі ў 20 працэнтах акруговых камісіяў будуць прадстаўнікі апазыцыі».

**Валер Каліноўскі.**

***Ад рэдакцыі.*** Усе выбарчыя кампаніі, якія праходзяць у Беларусі ад 1996 году, былі прызнаныя АБСЭ несвабоднымі і несправядлівымі. За гэта старшыня Цэнтравыбаркаму Лідзія Ярмошына і сакратар ЦВК Мікалай Лазавік былі ўнесеныя ў сьпісы неўязных у краіны Эўразвязу і ЗША. Аднак візавая забарона ня дзейнічае, калі запрашаюць міжнародныя арганізацыі, разьмешчаныя на тэрыторыі краін Эўразвязу ці ЗША.

СКАНДАЛЬНАЯ ГІСТОРЫЯ

# МІНІСТЭРСТВА АБАРОНЫ АДМАЎЛЯЕ ФАКТ ПРАНІКНЕННЯ ШВЕДСКАГА САМАЛЁТА

ЖЫХАРЫ ІВЯНЦА ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ, ШТО БАЧЫЛІ І САМАЛЁТ, І ЦАЦАЧНЫХ МЯДЗВЕДЗЯЎ, ПРЫМАЦАВАНЫХ ДА ПАРАШУТАЎ З ЦЫДУЛКАМІ НА ЗАМЕЖНАЙ МОВЕ. У ВАЛОЖЫНСКІМ РАУС ЗАЯЎЛЯЮЦЬ, ШТО НАЯЎНАСЦЬ МЕДЗВЕДЗЯНЯТАЎ Ў МІЛІЦЫІ - СУР'ЁЗНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ, ЯКАЯ НЕ ПАДЛЯГАЕ РАЗГАЛАШЭННЮ ПА ТЭЛЕФОНЕ.

**Мішуткі знайшліся ў міліцыі Івянца**

Па інфармацыі «Радыё Свабода», чорныя пластыкавыя пакеты, скінутыя з самалёта над Івянцом, знаходзяцца ў мясцовым аддзяленні міліцыі. Пра гэта журналістам паведаміла адна з жыхарак пасёлка Святлана Турко.

Святлана Турко, супрацоўніца мясцовага ЖКГ, паведаміла, што на свае вочы бачыла ў міліцыі некалькі тых самых пакетаў, у якіх сапраўды знаходзіліся парашуты з прымацаванымі цацачнымі медзведзянятамі і цыдулкамі на замежнай мове.

Жанчына таксама паведаміла, што гэтыя пакеты збіралі ў Івянцы і наваколлях.

**Заявы пацвярджаюцца словамі іншых жыхароў Івянца**

Валерый Мазура кажа, што таксама бачыў самалёт. Мазура сцвярджае, што з самалёта сапраўды скідалі медзведзянятаў. Мазура кажа, што цацкі прыбіралі супрацоўнікі мясцовага жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

Жыхарка Вольга Галаванава таксама паведаміла, што бачыла, як самалёт раскідваў нейкія пакункі. Па словах Вольгі Галаванава, у чацвер раніцай яе паўторна выклікалі ў міліцыю. Міліцыянты цікавіліся, ці бачыла яна машыну і тых людзей, якія здымалі на відэа, як самалёт скідаў пакеты з медзведзянятамі.

У міліцыю жыхарку Івянца выклікалі таксама напярэдадні, 4 ліпеня, дзе распытвалі, што яна бачыла, і паказалі тыя самыя пакеты з цацкамі і цыдулкамі. Вольга Галаванава кажа, што самалёт бачыла досыць вялікая колькасць людзей, якія знаходзіліся ў гэты час на івянецкай плошчы, так як адтуль сыходзіла маршрутка на Менск, і многія ехалі на працу ў сталіцу.

Жыхар Івянца Вінцэся Солтан кажа, што бачыў самалёт здалёку. Кажа, што не звярнуў на яго асаблівай увагі, паколькі, маўляў, 3 ліпеня на афіцыйным свяце над мястэчкам лётала шмат авіяцыі.

**Блогеры: «Лепш бы замест цацачных мядзведзяў рассыпалі еўра»**

Тым часам карыстальнікі Фэйсбука працягваюць жартаваць на тэму качкі пра мишуток.

Андрэй Стрыжак: «Гледзячы на гісторыю з мішкамі на парашутах над Івянцом-Менскам, хачу даць практычны савет арганізатарам такіх акцый. З боку расійскай мяжы ў беларускае паветраную прастору ўрываецца прасцей і прыемней. Чакаем мядзведзяў над Гомелем ».

Леанід Дзейка: «Можна было б і купюры эўра рассыпаць з паветра. Ажыятаж Быў бы нечуваны. Імгненна Ў народзе ўзьнікла б навейшая міфалегія пра добрага Карлсана ... ».

Сяргей Гудзілін: «цацачныя мядзведзі, скінутыя шведамі ў Івянцы, заявілі аб катаваннях у мінскім КДБ. Адзін з «Тэдзі» сканаў пасля 6-гадзіннага допыту ад страты набівання і адрыву лапкі ».

Rtm Aleś Pilecki: «Міліцыя Івянца афіцыйна паведаміла, Што мядзьведзі затрыманыя за Тое, Што Ў палец Брудная лаяліся матам. Суды Ў панядзелак «.

**Мінабароны: «Гэта грубая праца з ужываннем фотошопа і відэамантажу»**

Як паведамляе «БЕЛТА», Міністэрства абароны Беларусі праводзіць праверку інфармацыі, размешчанай побач інтэрнэт-крыніц, пра нібыта меў месца несанкцыянаваным палёце над тэрыторыяй Беларусі замежнага авіяцыйнага сродкі. Фактаў, якія пацвярджаюць перасячэнне дзяржаўнай мяжы ў паветранай прасторы, няма. «Даследуючы прадастаўленыя фота і відэаматэрыялы, эксперты выявілі грубую працу з ужываннем тэхналогій фотошопа і відэамантажу, што сведчыць аб відавочна правакацыйным характар падаецца інфармацыі», - падкрэслілі ў абаронным ведамстве.

**З'явіўся ролік з «самалётам, якія скідаюць цацкі»**

У інтэрнэце з'явілася відэа, на якім відаць як самалёт робіць кругі над царквой і нешта скідае на зямлю. Гэта відэа нібыта пацвярджае заяву шведскай піяр-кампаніі аб тым, што самалёт перасёк літоўска-беларускую мяжу і скінуў плюшавых мішак над Беларуссю.

Раней шведскі сайт The Local паведаміў, што два шведскіх прадпрымальніка на аднаматорным самалёце перасеклі мяжу Беларусі з боку Літвы і раскідалі плюшавых мішак з лозунгамі ў падтрымку свабоды слова ў Беларусі, нагадвае «Тэлеграф».

Па сцвярджэнні шведскіх СМІ, акцыя была арганізавана рэкламным агенцтвам Studio Total, а самі прадпрымальнікі спецыяльна прайшлі лётныя курсы. Нібыта яны ляцелі на лімітава нізкай вышыні і перасеклі мяжу незаўважанымі сіламі СПА дзвюх краін. Імёны лётчыкаў не паведамляюцца, па сцвярджэнні арганізатараў, з меркаванні бяспекі.

Разам з тым, на ролiку бачны лёгкі аднаматорны самалёт Jodel, скідае нейкія прадметы на зямлю. Самалёт у роліку па афарбоўцы нагадвае самалёт, прадстаўлены арганізатарамі акцыі на фатаграфіі.

***(Скарочана)***

**Вольга Слуцкая, gazetaby.com**



**Заснавальнік і рэдактар:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч

**Адрас рэдакцыі:** г.Віцебск, 3-я Мопраўская, д. 14, тэл. 26-42-02, маб. +375299410197. Газета выдаецца з траўня 2003 г.

**Падпісана да друку 16.07.2012 у 18.10.** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.